# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон: Старшыні ЦП № 4-08. Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы Цэнтральнага Праўленьня, інфармацыя, адказы на запытаньні).

15 (33)

№ 14 (32) | 15-га лістапада 1929 году | № 14 (32)

## ЗЬМЕСТ



*Усім арганізацыям Саюзу Сельгаслесрабочых.*

*Усім ашчадным касам БССР.*

Зьяўляючыся авангардам сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы, Саюз Сельгаслесрабочых напруджана працуе па выконваньню дырэктыў партыі па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, па ўзмацненьню пралетарскага ўплыву на бедняцка-серадняцкае сялянства,

У гэтай рабоце саюз дабіўся значных посьпехаў. У прыватнасьці, сваім удзелам у перавыбарах с.-саветаў у 1928 г., у вясеньняй пасеўнай кампаніі, у правядзеньні хлебанарыхтовак, распаўсюджваньні дзяржпазык і г. д. саюз паказаў, што з задачамі авангарда сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы ён спраўляецца.

Зараз перад саюзам стаіць канкрэтная задача: арганізаваць дапамогу ў справе прыцягненьня сялянскіх сродкаў у касы ашчаднасьці для патрэб сацыялістычнага будаўніцтва.

Для выкананьня гэтае задачы Бел. Рэсп. К-т саюзу заключыў з Галоўнай Ашчаднай Касай сацыялістычны дагавор, згодна якога саюз абавязваецца прыцягнуць у ашчадныя касы 100.000 руб. сялянскіх сродкаў.

У мэтах поўнага выкананьня гэтага дагавору, Бел. Рэсп. К-т прапануе ўсім акругкомам і рабачкомам саюзу:

1) Безадкладна прыступіць да разгортваньня практычнае работы па выкананьні дагавору, кіруючыся дасылаемымі вам інструкцыямі аб парадку выкананьня дагавору.

2) Бел. Рэсп. К-т і Галоўная Каса Ашчаднасьці ставяць перад вашаю акругаю задачу—прыцягнуць у ашчадныя касы суму сялянскіх сродкаў, з разьлікам ня менш 150 руб. у сярэднім на кожны рабачком.

3) Выдзеліць з складу прэзыдыуму акругкому саюзу і з складу працаўнікоў акруговых кас ашчаднасьці таварышоў, адказных перад вамі за правядзеньне гэтае справы і для кіраваньня практычнаю работаю рабачкомаў і нізавых кас ашчаднасьці.

4) Зьвярнуць асаблівую увагу на прыцягненьне да гэтае справы студэнцтва с.-г. навучальных устаноў, гарадзкіх прафкалялтываў, якія шэфствуюць над вёскамі, спэцыялістых сельскае і лясное гаспадаркі, выкарастайце ў поўнай меры ініцыятыву рабачкомаў на лесаапрацоўках, а таксама тэхнічны пэрсанал (прарабы, дзесятнікі і г. д.).

5) Разгарніце шырокае сацспаборніцтва паміж рабачкомамі і асобнымі вярбоўшчыкамі.

6) Абавязаць усіх інструктароў інструктаваць і дапамагаць рабачкомам у выкананьні ўсіх дырэктыў па гэтым пытаньні.

7) На мясцох увязвайце гэтую работу з с.-саветамі і дамагайцеся дапамогі з боку апошніх.

8) Усю работу праводзіць з шырокім удзелам с.-гаслесрабочых, шляхам абгаварэньня сацдагавору і гэтага ліста на сходах, а таксама па сканчэньні работы па выкананьню дагавору, заслухаць на сходах справаздачы рабачкомаў аб канкрэтных выніках работы.

Бел. Рэсп. К-т саюзу і Галоўная Каса Ашчаднасьці ўпэўнены ў тым, што задачу прыцягненьня сялянскіх сродкаў да справы сацыялістычнага будаўніцтва саюз Сельгаслесрабочых выканае з посьпехам.

Пры гэтым прыкладаюцца:

1) Сацдагавор.

2) Інструкцыя аб выкананьні дагавору.

3) Палажэньні аб конкурсах.

За Старшыню Бел. Рэсп. К-ту Саюзу Сельгаслесрабочых **Аскерка.**

Кіраўнік Галоўнае Касы Ашчаднасьці БССР **Падольскі**

Прынят на пасяджэньні Прэзыдыуму Саюза Сельгаслес рабочых БССР 29-га кастрычніка 1929 г.

## САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ДАГАВОР.

Ажыцьцяўленьне намечанага партыяй пляну вялікіх работ высоўвае, як асабліва важную задачу — пашырэньне і ўзмацненьне ўнутранага дзяржаўнага крэдыту. Уцягненьне ўнутраных рэсурсаў краіны, распыленых сярод паасобных працоўных груп насельніцтва, у рэчышча дзяржаўнага крэдыту павінна ў значнай ступені забясьпечыць безперабойнае выкананьне ў намечаныя тэрміны працугледжаных па пяці гадоваму пляну мерапрыемстваў па індустрыялізацыі краіны.

Гэта асабліва павышае ролю органаў дзяржкрэдыту, у прыватнасьці, дзяржаўных працоўных ашчадных кас на фронце сацыялістычнага будаўніцтва. Чарговыя задачы патрабуюць большага пашырэньня дзейнасьці ашчадных кас і ўцягненьня ў іх усей масы працоўнага насельніцтва, у прыватнасьці сялянства, якое да гэтага часу ахоплена ашчаднымі касамі вельмі слаба.

Вялізарная справа стварэньня фінансавай базы для забясьпячэньня будаўніцтва, адным з шляхаў якога зьяўляюцца ашчадныя касы, ня можа ў сучасны момант заставацца на адказнасьці адных толькі ашчадных кас. У большай ступені, чым да гэтага часу, ашчадным касам павінна быць забясьпечана дапамога з боку ўсей савецкай грамадзкасьці; і ў першую чаргу—прафсаюзнай грамадзкасьці. Дапамога ашчаднай справе з боку прафсаюзных арганізацыяў павінна зараз прыняць рэальныя, практычныя формы; трэба перайсьці ад слоў да справы.

У сучасны момант перад ашчадкасамі БССР пастаўлена канкрэтная баявая задача: выканаць у першым квартале 40 проц. гадавых кантрольных лічбаў па сялянскаму сэктару, гэта значыць, уцягнуць у ашчадныя касы БССР 600.000 руб. сялянскіх укладаў. Прафэсыйны Саюз Сельгаслесрабочых, які выконвае адказную ролю на вучастку сацыялістычнай перабудовы вёскі, сябры якога прыходзяць у сталую датычнасьць з масай сялянства—лічыць сваім абавязкам прыняць у выкананьні гэтага заданьня самы актыўны практычны ўдзел.

Для гэтага Цэнтральнае Праўленьне Саюзу Сельгаслесрабочых БССР заклю-

чае сучасны дагавор з Галоўнай Дзяржаўнай Працоўнай Ашчаднай Касай БССР аб наступным:

1. Прафэсыйны Саюз Сельгаслесрабочых БССР у асобе яго Цэнтральнага Праўлёньня бяре на сябе абавязак уцягнуць на працягу 1-га кварталу 1929-30 году ў ашчадныя касы БССР сто тысяч рублёў (100.000) сялянскіх і батрацкіх укладаў.

2. Свой абавязак ЦП Саюзу ажыцьцяўляе шляхам:

а) максымальнай актывізацыі ўсіх сваіх нізавых ячэяк (рабачкомаў, раённых упаўнаважаных) у справе папулярызацыі ідэй ашчаднасьці сярод сялянства і вярбоўкі сярод яго ўкладчыкаў;

б) правядзеньня шырокай растлумачальнай работы аб ролі ашчадкас сярод сяброў, аб'яднаемых саюзам. уцягненьня іх саміх у ашчадныя касы і стварэньня з складу актыву кадраў агітатараў-вярбоўшчыкаў для працы сярод сялян,

в) правядзеньня самастойнай кампаніі за шырокае ўцягненьне ў ашчадныя касы батракоў;

г) стварэньня кадру прапагандыстых-вярбаўшчыкаў з складу культурных сіл вёскі, аб'яднаемых саюзам: аграномы, лясьнічыя, ветўрачы і інш.

д) скарыстаньня даступных для сяброў саюзу па іх службовай дзейнасьці мэтадаў абсалютнага дабраахвотнага ўцягненьня сялянскіх укладаў у ашчадныя касы пры непасрэдным учыненьні з сялянствам грашовых разрахункаў, напрыклад: па лесанарыхтоўках і г. д.

3. Рабачкомы Саюзу неадкладна зьвязваюцца з бліжэйшымі ашчаднымі касамі, удзельнічаюць у распрацоўцы пляну мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьню квартальнага заданьня і бяруць на сябе практычнае выкананьне паасобных канкрэтных частак пляну.

4. На час дзейнасьці сучаснага дагавору рабачкомы прымацоўваюць таксама сваіх прадстаўнікоў да бліжэйшых камісіяў садзейнічаньня дзяржкрэдыту, увязваючы сваю практычную працу з планамі гэтых камісіяў.

5. Усе рабачкомы вылучаюць з складу прафсаюзнага актыву паасобных таварышоў у якасьці індывідуальных вярбоўшчыкаў. На абавязку вярбоўшчыкаў ляжыць індывідуальная вярбоўка сялян ва ўкладчыкі ашчадных кас і прыём ад іх укладаў.

6. Індывідуальную вярбоўку ўкладчыкаў вярбоўшчыкі утвараюць на падставе асобнай інструкцыі (далучаецца да дагаовру). Рабачкомы забясьпечваюць інструктаваньне вярбоўшчыкаў, наглядаюць за іх працай і вядуць вучот яе.

7. Практычную працу па індывідуальнай вярбоўцы ўкладчыкаў Галоўная Ашчадная Каса БССР аплачвае ў разьмеры 4 капеяк за кожнага ўкладчыка з укладам ня ніжэй 1-го рубля.

8. Сумы па кампэнсацыі за індывідуальную вярбоўку цэнтралізуюцца ў распараджэньні Галоўкасы і Цэнтральнага Праўленьня Саюзу. За кошт гэтых сродкаў Галоўкасай супольна з Цэнтральным Праўленьнем праводзяцца два конкурсы: 1) на прэміраваньне рабачкома, лепшага па выкананьню дагавору і 2) прэміраваньне больш актыўных індывідуальных вярбоўшчыкаў.

*Увага*: Палажэньні аб конкурсах і умовы іх далучаюцца да дагавору.

9. У парадку выкананьня ўзятага на сябе саюзам абавязку і удзелу рабачкомаў у конкурсе між рабачкомамі праводзіцца шырокае сацыяістычнае спаборніцтва.

10. Асаблівую актыўнасьць абавязваюцца праявіць рабачкомы саўгасаў, якія бяруць на сябе абслугоўваньне калгасаў. Калгасы павінны стаць апорнымі пунктамі для агітацыі за ашчадныя касы сярод сялянства. Рабочыя савецкіх гаспадарак асабістым прыкладам уступленьня ўкладчыкамі ў ашчадныя касы праводзяць шырокую агітацыю сярод бліжэйшых да іх калгасаў аб калектыўным мэтавым накапленьні, а таксама індывідуальную вярбоўку сяброў калгасаў у ашчадныя касы і пераносяць прыклады калгасаў на вакольнае сялянства.

11. Для абслугоўваньня калгасаў і больш шырокага іх ахопу рабачкомы саўгасаў практыкуюць стварэньне з свайго складу спэцыяльных рабочых брыгад і арганізоўваюць выязды гэтых брыгад у суседнія калгасы, а таксама на вёску.

12. Побач з шырокім уцягненьнем сялянства ў ашчадныя касы рабачкомы праводзяць самастойную растлумачальную і вярбовочную кампанію сярод аб'яднаемых імі батракоў і прымаюць меры да таго, каб ні воднага батрака не засталося без ашчаднай кніжкі.

13. Рабачкомы прымаюць актыўны ўдзел у распаўсюджваньні сярод сялянства агітлітаратуры аб ашчадных касах (лістовак, плакатаў і г. д.), прымаючы меры да таго, каб гэтая літаратура пападала ў кожную сялянскую хату абслугоўваемага рабачкомам раёну.

14. Дагавор, мерапрыемствы, зьвязаныя з выкананьнем яго і наогул ідэі ашчадных кас Центральнае Праўленьне Саюзу шырока папулярызуе на старонках свайго воргану „Беларускі Батрак". На ўвесь час дзейнасьці дагавору у „Беларускім Батраку" выдзяляецца спэцыяльны аддзел аб ашчадных касах.

15. Усе Акруговыя Аддзяленьні Саюзу і райупаўнаважаныя абавязваюцца забясьпечыць нізавыя ячэйкі дастатковым кіраваньнем і інструктаваньнем у галіне выкананьня дагавору і праводзяць сыстэматычны нагляд за ходам працы.

16. Галоўная Ашчадная Каса БССР абавязваецца аказваць ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых і яго нізавым ячэйкам праз усю сетку ашчадных кас Беларусі максымальнае садзейнічаньне ў ажыцьцяўленьні ўзятага на сябе саюзам абязацельства.

17. Галоўная Ашчадная Каса берэ на сябе, у прыватнасьці, абавязак забясьпечыць Саюз дастатковай колькасьцю сялянскай агітлітаратуры аб ашчадных касах, якая пасылаецца часткова Цэнтральным Праўленьнем непасрэдна ўсім рабачкомам (паштовыя выдаткі адносяцца за кошт Галоўкасы), а ў астатняй частцы Галоўкаса забясьпечвае ёю рабачкомы праз сельскія ашчадныя касы.

18. У разьвіцьцё гэтага дагавору ЦП Саюзу супольна з Галоўнай Касай выдаюць адпаведныя інструкцыі, дырэктывы і распараджэньні. Непарыўнай часткаю дагавору, падлягаючай абавязковаму выкананьню, як рабачкомамі Саюзу, так і ашчадкасамі, зьяўляецца далучаемая да дагавору інструкцыя, якая прадугледжвае парадак афармленьня апэрацыяў па індывідуальнай вярбоўцы ўкладчыкаў і ўстанаўляе формы вучоту выкананьня дагавору.

19. На падставе гэтага гэнэральнага дагавору які зьўляецца абавязковым для ўсіх арганізацыяў Саюзу Сельгаслесрабочых і для ашчадных кас БССР, акруговыя праўленьні саюзу заключаюць аналёгічныя дагаворы з Акруговымі Цэнтральнымі Ашчадкасамі, выходзячы з мясцовых умоў і мясцовага вопыту.

20. Дагавор заключаны на тэрмін да 1-га студзеня 1930 г., да якога часу павінна быць выканана асноўнае абязацельства яго. (п. 1).

Цэнтральнае Праўленьне Саюзу Сельлесгасрабочых БССР **Аскерка.**

Галоўная Ашчадная Каса БССР **Падольскі.**

3-XI—29 г. г. Менск.

---

Дадатак да сацыялістычнага дагавору (п. 18 дагавору).

# ІНСТРУКЦЫЯ

## аб парадку выкананьня саддагавору Саюзу Сельгаслесрабочых з Галоўашчадкасай БССР.

### I. Агульныя палажэньні.

1. Акруговыя Камітэты Сельгаслесрабочых разам з Акруговымі ашчаднымі касамі ўтвараюць прымацаваньне рабачкомаў акругі к асобным блізлежачым ашчадкасам.

2. Кожны рабачком асобнай пастановай на сваім пасяджэньні вылучае адказнага члена, які прымацоўваецца к ашчадкасе і на якога ўскладаецца практычная работа, зьвязаная з правядзеньнем дагавору.

*Увага:* Копію пастановы аб вылучаным упаўнаважаным рабачком перадае ў ашчадкасу.

3. З асяродку актыву кожны рабач-

ком выдзяляе 5-10 індывідуальных вярбоўшчыкаў, падбіраючы таварышоў пісьменных, грамадзка-разьвітых, якія могуць праводзіць прапаганду сярод сялян. У прыватнасьці, у якасьці вярбоўшчыкаў выдзяляюцца таксама ўваходзячыя ў даны рабачком члены саюзу—спэцыялістыя: аграномы, лясьнічыя, вэтўрачы і інш.

4. На абавязку вярбоўшчыкаў ляжыць індывідуальная вярбоўка ўкладчыкаў у ашчадкасы з асяродку сялян і батракоў і прыём ад іх першапачатковых ўзносаў.

5. Актывісты, выдзеленыя для індывідуальнай вярбоўкі сялян у ашчадкасы, аслабаняюцца на час дзейнасьці сацдагавору ад іншай саюзнай нагрузкі.

6. Праз упаўнаважаных рабачкомаў, ашчадкасы ажыцьцяўляюць кіраўніцтва практычнай работай рабачкомаў у галіне ўцягненьня сялянскіх ўкладаў, забясьпечваюць іх агітлітэратурай, апэрацыйнымі матар'яламі, а таксама праводзяць інструктаваньне індывідуальных вярбоўшчыкаў, для чаго пажадана таксама склікаць інструкцыйныя нарады з індывідуальнымі вярбоўшчыкамі.

## II. Парадак снабжэньня рабачкомаў і вярбоўшчыкаў апэрацыйным матар'ялам і формы вучоту.

7. За кожным рабачкомам ашчадкаса замацоўвае вызначаную колькасьць слабодных нумароў асабовых рахункаў у наступным парадку: каса застаўляе адпаведную колькасьць слабодных рахункаў для сваей бягучай, прыкладна, двухмесячнай патрэбы і намячае для рабачкомаў нумэрацыю, наступную за гэтым запісам.

*Прыклад*: Чарговы нумар у ашчадкасе 500, каса застаўлце для сябе 200 нумароў, а для рабачкомаў замацоўвае нумары, пачынаючы з 700.

8. Прадстаўніку рабачкому ашчадкаса выдае на рукі пад расьпіску:

а) блянкі картак асабовых рахункаў ўкладчыкаў і

б) нумарныя талёныя кніжкі ф. № 3 па аднэй кніжцы на кожнага вярбоўшчыка. Нумар кніжкі зьяўляецца нумарам вярбоўшчыка.

9. Кожнаа талёная кніжка ашчадкасай пранумероўваецца, прашнуроўваецца і прадрукоўваецца сургучнай пячаткай.

10. Парадковая нумерацыя квіткоў у талённых кніжках утвараецца ашчадкасамі наступным парадкам:

Пад кожны парадковы нумар занімаецца два талёны (дзьве старонкі); нумар пішыцца дроб'ю, пры чым чісліцель будзе парадковы нумар талёну, а знаменацель—нумар вярбоўшчыка (напрыклад: $^2/_1$, $^3/_1$—другі, трэці талён першага вярбоўшчыка і г. д.)

11. На кожны рабачком ашчадкаса заводзіць асабовы рахунак (у асобным сшытку), па далучаемой форме № 1. Па гэтых рахунках ашчадкаса вядзе вучот як аперацыйных матар'ялаў, якімі яна забясьпечвае рабачком. таксама і вучот практычнай работы рабачкому па ўцягненьню ўкладчыкаў.

12. Рабачком разьмяркоўвае асабовыя рахункі і талёныя кніжкі паміж выдзеленымі вярбоўшчыкамі, вядзе вучот гэтых матар'ялаў і работы вярбоўшчыкаў па далучаемой форме № 2.

## III. Апэрацыі індывідуальных вярбоўшчыкаў.

13. Кожны індывідуальны вярбоўшчык атрымлівае ад рабачкому на рукі вызначаную колькасьць асабовых картак і адну талёную кніжку.

14. Пры вярбоўцы ўкладчыка вярбоўшчык утварае наступныя апэрацыі:

а) шляхам апросу ўкладчыкаў запаўняе левы верхні бок карткі асабовага рахунку тымі зьвесткамі, якія там паказаны: прозьвішча ўкладчыка, адрас, узрост, заняткі;

б) бярэ ад укладчыка ўзор яго подпісу, для чаго дае яму падпісаць сваё прозьвішча на картцы зьверху з левага боку ў месцы, паказаным для гэтага чорнымі лініямі.

Пры няпісьменнасьці ўкладчыка вярбоўшчык піша на тым жа месцы: „няпісьменны";

в) у графе: „год, месяц, чысло",—вярбоўшчык піша дзень прыёму ўкладу; у графе „апэрацыі"—піша: „прынята"; у графе „сума" піша суму прынятага ўкладу.

15. У прыёму ўкладу (грошай) вярбоўшчык выдае ўкладчыку квіток ф. № 3 з сваей талённай кніжкі. Квіток вярбоўшчык выпісвае пад капіроўку ў 2-х экз. і паказвае у ёй:

а) прописам суму прынятага ўкладу і

б) прозьвішча ўкладчыка.

Кожны квіток вярбоўшчык падпісвае, адзін экзэмпляр вырывае і аддае ўкладчыку, а другі экзэмпляр астаўляе ў кніжцы.

16. Ні воднага квітку ў талённай кніжцы вярбоўшчыка ня можа не хапаць. Пагэтаму, у выпадку, калі вярбоўшчык выпадкова папсаваў квіток (напрыклад, няправільна яго запоўніў), ён не павінен вырываць яго, а застаўляе папсаваны квіток у кніжцы, перакрэсьлівае яго і пераходзіць да запаўненьня наступнага чарговага квітку.

17. Пры скарыстаньні вярбоўшчыкам поўнасьцю квітковай кніжкі ён абавязан зьвярнуць у рабачком вокладкі кніжак з пячаткай і атрымлівае ўзамен новую.

18. Рабачкомы вокладкі выкарастаных квітковых кніжак перадаюць у ашчадкасу, якая сьпісвае іх з рахунку рабачкому і астаўляе хаваць у сябе.

19. Кожныя тры дні вярбоўшчык адлічваецца перад упаўнаважаным рабачкому і здае яму па талённай кніжцы: 1) прынятыя грошы, 2) запоўненыя асабовыя карткі і 3) другія экземпляры талёнаў.

У прыёме грошай, картак і талёнаў упаўнаважаны выдае вярбоўшчыку росьпіску і адзначве ў рахунку вярбоўшчыка (ф. № 2).

## IV. Парадак выпіскі і ўручэньня ўкладчыкам ашчадкніжак.

20. Па меры прыняцьця ад вярбоўшчыкаў ўкладных грошай і дакумантаў упаўнаважаны рабачкому, не затрымліваючы, адае іх асабіста, альбо перасылае праз лістаносца, у ашчадную касу.

21. Ашчадкаса правярае па талёнах правільнасьць запісаў у картцы асабовага рахунку, робіць адпаведныя запісы ў асабовых рахунках рабачкому (ф. № 1) і ў той жа дзень выпісвае на ўкладчыкаў ашчадныя кніжкі, якія перадае, альбо перасылае праз лістаносца рабачкому.

Карткі асабовых рахункаў, па налічэньні па іх процантаў, разам з прымацаванымі да іх талёнамі, ставяцца ў картацы.

22. Рабачкомы, атрымаўшы ад ашчадкасы ашчадкніжкі, здаюць іх вярбоўшчыкам для ўручэньня ўкладчыкам.

23. Вярбоўшчыкі неадкладна ўручаюць атрыманыя ашчадкніжкі завербаваным імі ўкладчыкам і атрымліваюць ад іх назад выдадзеныя ім раней квіткі ф. № 3 у прыёме грошай.

На звароце гэтага квітку, ўкладчык расьпісваецца ў атрыманьні ашчадкніжкі з паказаньнем нумару яе.

Пры няпісьменнасьці ўкладчыка вярбоўшчык сам робіць надпіс: „уручана ашчадная кніжка за № . . . , укладчык няпісьменны".

24. Адабраныя ад ўкладчыкаў пры ўручэньні ім ашчадкніжак першыя экзэмпляры талёнаў вярбоўшчык прадстаўляе у рабачком, а апошні передае іх у Ашчадкасу, якая прымацоўвае талён да адпаведнай карткі асабовага рахунку.

*Увага*: Такім чынам пры кожнай картцы асабовага рахунку павінны быць два талёны: у прыёме грошай і ў выдачы ашчадкніжкі (квітоўка).

## V. Парадак і тэрміны прадстаўленьня зьвестак.

25. Нізавыя ашчадкасы, да якіх прымацаваны асобныя рабачкомы, прадстаўляюць у Акруговыя Цэнтральныя касы 2 разы ў месяц к 16-му і 2-му кожнага месяца зьвесткі аб колькасьці ўцягнугых вярбоўшчыкамі ўкладчыкаў па форме № 3.

*Увага*: Зьвесткі гэтыя ашчадкасы складаюць на аснове запісаў у сшытку вучоту дзейнасьці рабачкому—ф. № 1.

26. Гэтыя ж зьвесткі рабачкомы прадстаўляюць два разы ў месяц у тыя-ж тэрміны (к 16-му і 2-му) у Акруговыя Камітэты Саюзу Сельгаслесрабочых, а па Менскай Акрузе—у Белрэскт саюзу, па форме № 4.

*Увага*: Зьвесткі гэтыя рабачкомы складаюць на падставе даных рахункаў асобных вярбоўшчыкаў.

27. Акруговыя Цэнтральныя касы прадстаўляюць зьвесткі 2 разы ў месяц

к 20-му і 5 му числу ў Галоўную Касу па форме № 3, без пералічэньня рабачкомаў у 2-й графе, а паказваючы іх агульнэй лічбай.

28. У тыя ж тэрміны (к 2-му і 5-му числу) Акруговыя Камітэты саюзу прадстаўляюць у Бел. Рэсп. Камітэт саюзу зьвесткі па ф. № 4 без пералічэньня прозьвішча вярбоўшчыкаў у гр. 2 ведамасьці, а паказваючы ў гэтай графе агульную лічбу рабачкомаў і колькасьць вярбоўшчыкаў, якіх зьвесткі датычацца.

29. Па сканчэньні дзейнічаньня дагавору нізавыя ашчадкасы прадстаўляюць у Акруговыя Цэнтральныя Касы заключную агульную ведамасьць па ф. № 3 за ўвесь час кампаніі з выверанымі па рахунках данымі.

Акруговыя Центральныя Касы такую ведамасьць прадстаўляюць у Галоўную Касу

*Увага:* На падставе гэтай ведамасьці ўтвараецца разьлік камісійнай узнагароды за індывідуальнае ўцягненьне, прадугледжанае па дагавору (4 кап. з ўкладчыка).

30. Рабачкомы прадстаўляюць у Акруговыя Камітэты па сканчэньні дзейнічаньня дагавору ведамасьць па ф. № 4 за ўвесь час кампаніі, а Акруговыя Камітэты прадстаўляюць такую ведамасьць у Бел Рэсп. Камітэт саюзу.

## VI. Праверка расходу апэрацыйнага матар'ялу

31. У канцы кампаніі рабачкомы адбіраюць ад усіх індывідуальных вярбоўшчыкаў усе астаўшыяся ў іх на руках нявыкарыстаныя апэрацыйныя дакуманты: карткі асабовых рахункаў і квітковыя кніжкі, а таксама вокладкі выкарыстаных кніжак і прадстаўляюць іх у ашчадкасы, адлічыўшы перад імі ва ўсім атрыманым за час кампаніі апэрацыйным матар'яле.

32. Ашчадкасы сачаць па рахунках асобных рабачкомаў за тым, каб увесь нескарыстаны апэрацыйны матар'ял, а таксама вокладкі з пячаткай выкарыстаных талённых кніжак, паступілі назад у ашчадкасу.

33. Праверка выкарастаных талённых кніжак утвараецца наступным чынам: калі талённая кніжка выкарыстана поўнасьцю, дык зьвяраюцца, ці маюцца пры асабовых рахунках усе талёны гэтай кніжкі (першыя і другія экзэмпляры); калі талённая кніжка выкарыстана часткова, дык выяўляецца, ці маюцца прымацаванымі да асабовых рахункаў нехапаючыя талёны кніжкі.

Ц. Праўленьне Саюзу Сельгаслесрабочых БССР **Аскерка.**

Галоўашчадкаса БССР **Падольскі**

3-XI—1929 г.
г. Менск

## РАХУНАК РАБАЧКОМУ .................... (такі-та)

Форма № 1.

Заводзіцца ў сшытку ў касе ашчаднасьці.

Да ашчадкасы прымацаваны тав. ..............................

| Месяц и число | Выдадзена | | | Прынята | | | | Уцягнута ў ашчадкасы (прын. грош) | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Картак асабов. рахункаў | Талённых кніжак | Ашчадкніжак для ўруч. укладч. | Запоўн. асабовых картак | Першых паасобнікаў талён. | Другіх паасобнікаў талёнаў | Нескарыст. тал ён. кн. альбо аблажак ад скар. | Сялян: Укладчыкаў | Сялян: Укладаў | Батракоў: Укладчыкаў | Батракоў: Укладаў | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | | | | | | | | |

## РАХУНАК ВЯРБОУШЧЫКА № .................... тав. ..............................

(прозьвішча і імя).

Форма № 2.

Заводзіцца ў сшытку ў Рабочкоме

| Месяц і число | Выдадзена вярбоўшчыку | | | Прынята ад вярбоўшчыка | | | | Уцягнута вярбоўшч. у ашчадкасу (прын. і здадзена рабачкомам у ашчадкасу грошай) | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Картак асабов. рахункаў | Талёных кніжак | Ашчадн. кніжак | Асабов. картак | Першых паасобн. талён. | Другіх паасобн. талёнаў | Нескарыст. талён. кніж. альбо аблажак ад скар. | Сялян: Укладч. | Сялян: Укладаў | Батракоў: Укладч. | Батракоў: Укладаў | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | | | | | | | | |

Форма № 3

Прадстаўляецца ашчадкасай у акруг. цэнтральную касу к 16-му і 2-му кожн. мес. і агульная к канцу кампаніі.

# ЗЬВЕСТКІ

## аб выкананьні сацдагавору Саюзу Сельгаслесрабочых з Галоўкасай БССР

*па ашчадкасе* .................... *за час з* .................... *па* ....................

| №№ п. ч. | Наіменаваньне рабачкому | Кольк. акт. вярбоўшч., ад якіх паст. уклады | Уцягнута ў ашчадкасу | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Сялян | | Батракоў | | |
| | | | Укладч. | Укладаў | Укладч. | Укладаў | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | | | | | |

Увага: Акруговыя ц. касы прадстаўляюць гэту форму ў Галоўкасу к 2-му і 5-му кожнага месяца і ў канцы кампаніі без пераіменаваньня рабачкомаў.

Форма № 4.

Прадстаўляецца Рабачкомамі у акруг. Камітэты Саюзу к 16-му і 2-му кожнага месяца. а агульная к канцу камп.

# ЗЬВЕСТКІ

## аб выкананьні сацдагавору Саюзу Сельгаслесрабочых з Галоўкасай БССР

*па рабачкому* .................... *за час з* .................... *па* ....................

| №№ п. ч. | Прозьвішча вярбоўшч. | Уцягнута ў ашчадкасы | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Сялян | | Батракоў | | |
| | | Укладч. | Укл. (сума) | Укладч. | Укл. (сума) | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 7 | 8 |
| | | | | | | |

*Усяго па рабачкому*....................

Увага: Акруг. Км-ты Саюзу прадстаўляюць гэту форму ў ЦП Саюзу к 20-му і 5-му кожнага м-ца і агульную ў канцы кампаніі, паказвая ў ней замест графы: „прозьвішча вярбоўшчыкаў" паасобна агульную колькасьць рабачкомаў і вярбоўшчыкаў.

Дадатак да сацдагавору (п. 8 дагавору).

# ПАЛАЖЕНЬНЕ

## аб конкурсе на лепшы рабачком Саюзу Сельгаслесрабочых БССР па ўцягненьню ў ашчадныя касы сялянскіх укладаў.

1. Конкурс на лепшы рабачком Саюзу Сельгаслесрабочых утвараецца на аснове сац. дагавору Саюзу з Галоўнай Касай Ашчаднасьці і мае сваей мэтай:

а) *актывізацыю рабачкомаў у справе выкананьня дагавору* і

б) *разгортваньне сярод рабачкомаў сацыялістычнага спаборніцтва на большае ўцягненьне ў касы ашчаднасьці сялянскіх і батрацкіх укладаў.*

2. У конкурсе прымаюць удзел *усе рабочкомы Саюзу Сельгаслесрабочых*, якія прыцягваюцца да практычнай работы па выкананьні ўзятага на сябе саюзам абавязку, прадугледжанага гэнэральным сацдагаворам і інструкцыяй да яго.

3. Конкурс праводзіцца *ва ўвесь пэрыяд чыннасьці гэнэральнага сацдагавору саюзу* з Галоўнай Касай Ашчаднасьці.

4. *На прэміраваньне рабачкомаў па конкурсу вызначаецца 50 проц.* той сумы, якую Галоўная Каса павінна, згодна дагавору, выплаціць у выглядзе кампэнсацыі за ўцягнутых укладчыкаў, лічучы па 4 кап. з укладчыка (п. 7 сацдагавору).

5. *Ацэнка рабачкомаў*, якія належаць прэміраваньню па конкурсу, вытвараецца на аснове наступных паказацеляў:

а) *агульная актыўнасьць рабачкомаў* і яго практычная работа ў выкананьні дагавору і папулярызацыі ашчадных кас як сярод членаў саюзу, так і сярод сялянства;

б) *колькасьць уцягнутых ў ашчадныя касы сялян і сума ўцягнутых сялянскіх укладаў;*

в) *колькасьць уцягнутых у ашчадныя касы батракоў і сума батрацкіх укладаў;*

г) *ступень выкананьня заданьня* ўскладзенага на рабачком па разьмяркаваньні Акраддзяленьня;

д) дасягненьні ў адносіне *прыцягненьня актывістых саюзу* да практычнай вярбоўкі ўкладчыкаў у ашчадную касу і колькасьць выкарыстаных для гэтай мэты вярбоўшчыкаў;

е) *ступень выкананьня дагавораў па сацспаборніцтву*, якое будзе праводзіцца паміж асобнымі рабачкомамі.

6. Па конкурсу ўстанаўліваецца *18 прэмій*

7. *Разьмер кожнай прэміі паасобку* ўстанаўліваецца ў час конкурсу у залежнасьці ад вялічыні сумы, якая акажацца па колькасьці ўцягнутых укладчыкаў (п. 4). *Большая колькасьць уцягнутых кожным рабачкомам укладчыкаў павысіць, такім чынам, разьмер кожнай прэміі.*

8. Парадак разьмяркаваньня премій устанаўліваецца наступны:

а) *з усіх рабачкомаў кожнай акругі прэміруюцца два*, якія акажуцца першымі ў сваей акрузе па ўдзелу ў выкананьні сацдагавору (усяго 16 прэмій) і

б) *дзьве прэміі прысуждаюцца тым рабачкомам саюзу, якія дасягнуць вышэйшых вынікаў па Рэспубліцы.*

9. Для выяўленьня вынікаў конкурсу і належачых да прэміраваньня рабачкомаў, утвараюцца *Конкурсныя Камісіі ў кожнай акрузе і Цэнтральная Конкурсная Камісія пры ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых.*

*Увага:* У склад Конкурсных Камісій ўваходзіць па аднаму прадстаўніку ад Саюзу, кас ашчаднасьці, камісій садзейнічаньня дзяржкрэдыту і рэдакцыі мясцовых газэт, (а ў Цэнтральную Камісію—ад газэты „Зьвязда" і „Бел. Батрак").

10. На аснове справаздачных зьвестак і характарыстака аб ктыўнасьці асобных рабачкомаў, прадстаўленных Акруговымі Аддзяленьнямі саюзу і акруговымі ц. касамі, *кожная Акруговая Конкурсная Камісія выдзяляе з агульнай колькасьці рабачкомаў акругі 5 лепшых рабачкомаў* у якасьці кандыдатаў і прадстаўляе іх з сваімі заключэньнямі ў Цэнтральную Камісію.

11. Цэнтральная Конкурсная Камісія ўстанаўлівае рабачкомы, якія належаць прэміраваньню, як першыя ў сваіх акругах і прызначае таксама прэмію рабачкомам лепшым па выкананьні сацыялістычнага дагавору ў Беларусі.

1. *Разьмяркаваньне прэмій вытвараецца Конкурснай Камісіяй па сканчэньні тэрміну дзейнасьці гэнэральнага сацыялістычнага дагавору.*

ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых **Аскерка.**

Галоўная Дзярж. Каса Ашчаднасьці **Падольскі.**

3-XI—29 г.

---

Дадатак да сацдагавору (п. 8 дагавору)

# ПАЛАЖЭНЬНЕ

## аб конкурсе на больш актыўнага вярбоўшчыка сялян ў ашчадныя касы.

1. Конкурс на больш актыўнага індывідуальнага вярбоўшчыка—члена саюзу Сельгаслесрабочых мае сваёй мэтай:

а) *прыцягнуць найбольшае число членаў саюзу Сельгаслесрабочых да работы па індывідуальнай вярбоўцы сялян у ашчадныя касы і забесьпечыць большую актыўнасьць саміх вярбоўшчыкаў.*

б) *кампэнсаваць найбольш актыўных вярбоўшчыкаў* за іх працу па афармленьню ўцягненьня ў ашчадныя касы ўкладаў і ўкладчыкаў.

2) Конкурс на больш актыўнага вярбоўшчыка ўтвараецца ў рэспубліканскім маштабе.

3) *У конкурсе прымаюць удзел усе вярбоўшчыкі*—члены саюзу Сельгаслесрабочых, якія будуць праводз'ць індывідуальную вярбоўку ў касы ашчаднасьці сялян і батракоў, згодна гэнэральнага сац. дагавору Саюзу з Галоўнай Касай Ашчаднасьці.

4. На прэміраваньне па конкурсу індывідуальных вярбоўшчыкаў выдзяляецца *50 проц. той сумы, якая прызначаецца па дагавору* (п. 7) на кампенсацыю за індывідуальную вярбоўку (4 кап. з укладчыка).

5. Усяго па конкурсу ўстанаўліваецца *прэміраваньне 45-х індывідуальных вярбоўшчыкаў.*

6. Парадак разьмяркаваньня прэмій устанаўліваецца наступны:

а) *на кожную акругу выдзяляецца па 5 прэмій,* усяго 40 прэмій. Гэтыя прэміі прызначаюцца для тых індывідуальных вярбоўшчыкаў, якія дасягаюць лепшых вынікаў па вярбоўцы сярод усіх вярбоўшчыкаў даннай акругі;

б) *5 прэмій разьмяркоўваюцца сярод тых індывідуальных вярбоўшчыкаў, якія па выніках уцягнутых імі ў касы ашчаднасьці ўкладаў акажуцца першымі ў Рэспубліцы.*

7. *Прэміі* па конкурсу ўстанаўляюцца *грашовыя.*

8. Фактычны разьмер асобных прэмій устанаўліваецца пасьля ў залежнасьці ад таго, якая сума будзе на прэміраваньне па колькасьці ўцягнутых вярбоўшчыкамі ўкладчыкаў. У межах гэтай сумы *прэміі для лепшых вярбоўшчыкаў па акрузе вызначаюцца ў разьмеры да 50 руб., а для лепшых вярбоўшчыкаў па Р спубліцы ў 75 руб.*

9. У аснову *ацэнкі работы індывідуальных вярбоўшчыкаў,* належачых прэміраваньню, будуць паложаны даныя аб *колькасьці ўцягнутых кожным вярбоўшчыкам у ашчадныя касы ўкладчыкаў ся ян і батракоў і сума ўцягнутых ўкладаў.*

10. Ацэнка работы індывідуальных вярбоўшчыкаў і вызначэньне іх права на ўдзел у прэміраваньні вытвараецца на аснове зьвестак, прадстаўленых рабачкомамі.

11. Для выяўленьня найбольш актыўных вярбоўшчыкаў у *кожным раёне* арганізуецца пры ашчаднай касе *камісія* ў складзе прадстаўнікоў: ад раённай камісіі садзейнічаньня дзяржкрэдыту, касы ашчаднасьці і райупаўнаважанага Саюзу Сельгаслесрабочых.

12. *Раённыя конкурсныя камісіі* выяўляюць лепшых вярбоўшчыкаў па раёну і прадстаўляюць іх на прэміраваньне *па дзьве кандыдатуры ў акруговую конкурсную камісію,*

13. *Акруговая конкурсная Камісія выяўляе* з ліку вярбоўшчыкаў, якія прадстаўлены к прэміраваньню з раёнаў *па 10 найбольш адпаведных кандыдатаў* і прадстаўляе іх к прэміраваньню з сваімі заключэньнямі ў Цэнтральную Конкурсную Камісію пры ЦП Саюзу.

*Увага*: Конкурснай Камісіяй у акрузе зьяўляецца камісія пры Акраддзяленьнях саюзу, якая ствараецца па конкурсу на лепшы рабачком.

14. *Цэнтральная Конкурсная Камісія* вытварае разьмеркаваньне прэмій сярод прадстаўленых кандыдатаў у парадку, паказаным у п. 6-м Палажэньня, па сканчэньні тэрміну дзейнасьці гэнэральнага сацдагавору паміж ЦП Саюзу і Галоўнай Касай Ашчаднасьці БССР.

15. Прэміі разьмяркоўваюцца сярод прэміраваных вярбоўшчыкаў *праз рабачкомы* саюзу Сельгаслесрабочых.

ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР
**Аскерка.**

Галоўная Каса Ашчаднасьці БССР
**Падольскі.**

3-XI—29 г.

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.**

Адказны рэдактар—**Вайтэнкаў.**
Намесьнікі яго: **Аскерка, Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 2789. Тыраж 1200 экз. Друкарня Менспраўдома.